Кошт 50 сантымаў.




# Беларуская школа ў Латвіі

Пэдагогічна-грамадзкі штомесячнік беларускае нацыянальнае меншасьці у Латвіі.

Пад рэдакцыяй К. ЕЗАВІТАВА.

№ 6 (4). Год II.

Красавік 1927 году.

Латвія, Рыга, Гертрудзінская вул. № 80, кв. 4.

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

№ 6 (4). | Рыга, красавік 1927 году. | Год II.



**Група сяброў-закладчыкаў Т-ва «Беларускае Драмы і Камэдыі» улетку 1917 г.**

Улетку 1917 году група беларускіх энтузіастаў-адраджэнцаў, начале з грамадзянамі: Флёрыянам Ждановічам, Галубком, Паўлінай Мядзіолко і Фальскім, залажыла ў Менску першае беларускаетэатральнае таварыства, якое паставіла сабе мэтай стварыць у Менску сталы Беларускі Тэатр. Да часу ставарэньня гэтага таварыства беларускія пастаноўкі і спэктаклі хаця-ж і адбываліся ў даволі значным ліку, аднак сталага беларускага тэатру усё яшчэ не было. беларускія тэатральныя дружыны працавалі бяз пэўнае сыстэмы і кіраўніцтва, бяз пэўнага сталага складу артыстых, і часта развальваліся пасьля першых некалькіх пастановак. Аддпана ідэёвая праца Ф. Ждановіча (ляжыць у цэнтру групы) і ярка выявіўшыя сябе драматургічныя здольнасьці Галубка (стаіць у сьвішцы пры бярэзіне), напісаўшага шэраг добрых п'ес для трупы т-ва, моцна аб'ядналі каля таварыства „Беларускае Драмы і Камэдыі" гурток жывых, здольных маладых сіл, якія ахвяравалі сваё жыцьцё беларускаму мастацтву. З вялікім падоймам і посьпехам выступала Паўлінка Мядзіолко ў „Паўлінцы" Я. Купалы (ў цэнтры групы, пад сьцягам т-ва), захоплены быў тэатрам Фальскі (зьлева ад сьцягу), запаліваліся каля іх і ад іх маладзейшыя артысты і артысткі: Жураўскі (справа каля сьцягу), Іваноў, В. Вашкевіч і іншыя. Пасьля некалькіх месяцоў упартае працы, у канцы 1917 году, трупа т-ва была ужо шырока вядома беларускаму грамадзянству і часта выступала як у Менску гэтак і ў правінцыі. У 1918 годзе Народны Сэкрэтарыят БНР дае трупе невялічкую штомесячную дапамогу і абвешчае яе Беларускім Дзяржаўным Тэатрам, трупа папаўняецца новымі сіламі і становіцца на моцны грунт. Улетку бягучага 1927 году спаўняецца 10-ці годзьдзе закладзінаў т-ва „Беларускае Драмы і Камэдыі". Трэба спадзявацца, што сучасныя Беларускія Дзяржаўныя Тэатры, урачыста адсьвяткуюць гэтую прыгожую гадавіну.

# Заданьні беларускае асьветы у Латвіі.

**(Гутарка з кіраўнікомъ Беларускага Аддзелу гр. В. Пігулеўскім).**

Найбольш грунтоўнымі з прынцыповых пытаньняў у справе культурна-прасьветнага будаўніцтва сярод беларускае меншасьці ў Латвіі я лічу:

1. Пашырэньне сеткі беларускіх пачатковых школ.

2. Паступовае ператварэньне 4-х клясовых пачатковых школ у 6-ці клясовыя.

3. Наданьне навучаньню ў беларускіх школах больш жыцьцёвага характару.

4. Палепшаньне варункаў працы беларускага вучыцельства і арганізацыя завочнае асьветы.

4. Арганізацыя пазашкольнае асьветы.

**Сетка беларускіх пачатковых школ**

пачынаючы ад 1921 году і да 1924 году разьвівалась у меру эканамічных магчымасьцяў Латвіі прыблізна нармальна і ў 1923-24 вучэбным годзе налічвалась 50 беларускіх пачатковых школ на 73.630 чалавек беларусаў. Але ў красавіку 1924 году пачаўся „Беларускі працэс у Латвіі“, а ў канцы 1924 году быў зачынены і Беларускі Аддзел пры Міністэрстве Прасьветы. Шырокі ахват гэтым працэсам цёмнае латгальскае вёскі ўнёс у псыхіку беларускага селянства падазроннасьць, а ўрэшце і пераконанасьць, што, быццам, вядзецца прынцыповае прасьледаваньне беларускае школы, а таму пасылаць дзяцей у беларускую школу — рэч ня толькі непакойная, але і небясьпечная. Зразумела, што ворагі беларускага нацыянальнага адраджэньня, галоўным чынам прадстаўнікі расейскіх і польскіх вялікадзяржаўных ідэолёгаў, шырока выкарысталі гэты псіхалёгічны надлом у беларускім сялянстве і пры дапамозе самых несумленных сродкаў павялі агітацыю варожую беларускай школе.

Беларускае вучыцельства не магло працівапаўстаць энэргійна гэтаму дэнацыяналізуючаму працэсу, бо знаходзячыся ўвесь час пад пагрозаю адміністрацыйных рэпрэсіяў, яно павінно было сьцісла замкнуцца ў мурах пэдагагічнае працы і зусім адыйсьці ад культурна-грамадзкае працы сярод шырокіх беларускіх селянскіх масаў.

Вынікі ўсяго гэтага былі катастрафічныя: лік беларускага жыхарства па перапісу 1925 г. зьменшыўся з 73.630 чал. да 38.010, лік беларускіх пачатковых школ за 2 гады скараціўся з 50 да 33. Рэшта школ перайшлі галоўным чынам у Агульны Дэпартамэнт Міністэрства Прасьветы.

Лік сучасных беларускіх пачатковых школ — 33 зьяўляецца зусім незадавальняючым нават з пункту гледжаньня звычайнае барацьбы з анальфабэтцтвам, бо 1 школа прыходзіцца прыблізна на 1300 беларусаў. Да гэтага часу беларусы налічалі 65 проц. няўмеючых пісаць і 45 проц. няўмеючых ні пісаць ні чытаць; цяпер школу адведываюць ня больш 50. проц. усіх беларускіх дзяцей, а гэта азначае, што процант анальфабэтаў не паказывае зьніжэньня і на будучыню.

У найгоршым стане знайходзіцца справа ў Ілукштанскім павеце, дзе істнуюць воласьці, налічаючыя 40 — 53 проц, беларусаў (Дземенская, Борненская, Бароўская, Скрудалінская і інш.) і дзе да гэтага часу не маецца ні воднае беларускае школы. У істнуючых там школах „мешанага складу“. Агульнага дэпартамэнта налічаецца 14 школ, дзе афіцыяльна канстатуецца наліччa пераважаючага процанту беларусаў, але ніводнага беларуса

вучыцеля там няма, выкладаньне лекцыяў беларусазнаўства ня робіцца і ніякая беларуская культурна-прасьветна праца не вядзецца.

Склад жыхарства і лік школ у памянёных валасьцёх Ілукштанскага павету відзен з наступнае табліцы.

| **Назовы валасьцей.** | **Працэнт жыхароў і лічба школ рожных нацыянальнасьцяў у Ілукштанскім павеце.** | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Латышоў | | Велікар. | | Беларус. | | Палякаў | | Літвіноў | | Жыдоў | | Іншых | |
| | процант | школ | процант | школ | процант | школ | процант | школ | процант | школ | процант | школ | процант | школ |
| Коплаўская | 18,24 | 3 | 9,17 | — | 52,63 | — | 14,82 | — | 2,40 | — | 1,28 | — | 1,44 | — |
| Бароўская | 10,85 | 2 | 44,45 | — | 32,63 | — | 2,67 | — | 0,15 | — | 8,12 | — | — | — |
| Дземенская | 11,75 | 2 | 23,26 | — | 39,33 | — | 17,71 | — | 6,67 | — | 0,56 | — | — | — |
| Калкунская | 10,72 | 4 | 42,25 | 3 | 6,49 | — | 22,74 | 1 | 16,30 | — | 0,59 | — | — | — |
| Курцумская | 12,20 | 4 | 29,98 | 1 | 14,94 | — | 31,45 | — | 11,18 | — | — | — | — | — |
| Саланайсая | 28,77 | 2 | 37,13 | — | 24,23 | — | 9,39 | — | 0,05 | — | 0,06 | — | — | — |
| Скрудалінск | 15,68 | 2 | 48,43 | 1 | 25,30 | — | 8,49 | 1 | 0,90 | — | 0,57 | — | — | — |
| Стэленская | 30,77 | — | 12,54 | — | 0,85 | — | 18,52 | — | 36,04 | — | — | — | — | — |
| Сьвентэнск. | 15,87 | 1 | 35,13 | — | 24,41 | — | 15,14 | — | 7,08 | — | 1,59 | — | 0,33 | — |
| Р А З А М. | 17,20 | 20 | 31,46 | 5 | 24,40 | — | 14,80 | 2 | 8,97 | — | 1,83 | — | 0,88 | — |

Ня лепш стаіць справа ў Букмуйскай (Вайвадаўскай) воласьці Рэжыцкага павету, дзе жыве 1186 беларусаў і няма ні воднае беларускае школы і ні воднага беларускага камплекта, між тым як вялікарусаў налічаецца 999 чалавек і маецца 2 расейскія пачатковыя школы.

Склад жыхарства ў Люцынскім павеце таксама дае магчымасьць жадаць большага ліку беларускіх школ у гэтым павеце.

Цікава параўнаць лічбы латыскіх і беларускіх школ і ў Дзьвінскім павеце. Працэнтныя ўзаемаадносіны відаць з наступнае табліцы.

| Назва гарадоў і валасьцей: | Лічба нацыянальнасьці і лічба школ у некаторых валасьцёх Дзьвінскага павету. | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Латышы: | | Беларусы: | |
| | жыхараў. | школ | жыхараў | школ. |
| Дзьвінск. | 11 048 | 7 | 1 039 | 1 |
| Краслаўка. | 833 | 2 | 428 | — |
| Граверская вол. | 3 659 | 7 | 987 | 1 |
| Скайсценская. | 2 824 | 9 | 3 303 | — |
| Капінская. | 6 241 | 10 | 1 128 | — |
| Краслаўская. | 5 369 | 8 | 1 003 | — |
| Малінаўская. | 2 469 | 2 | 282 | — |
| Прыдруйская. | 193 | 2 | 6 042 | 8 |
| Пустынская. | 202 | 3 | 2 069 | 3 |
| Вышкаўская. | 4 944 | 7 | 717 | — |
| Разам | 37 782 | 57 | 16 998 | 13 |

Разглядаючы апошнюю табліцу магчыма канстатаваць, што Краслаўская, Скайсьценская і Капінская воласьці налічаючыя разам 5862 беларуса ня маюць ні воднае беларускае школы і істнуюць толькі беларускія камплекты пры школах Агульнага Дэпартамэнту. У Вышкаўскай воласьці 717 беларусаў ня маюць ні воднае беларускае школы і ні воднага беларускага камплекту, а 699 велікарусаў маюць 3 расейскіх камплекты пры школах Агульнага Дэпартамэнту.

Усё вышэйпаказанае ставіць наступныя заданьні:

1, пашырэньне сеткі беларускіх школ і стварэньне яе прапарцыя-

нальна ліку беларускага жыхарства;

2, адчыненьне беларускіх камплектаў пры тых дзяржаўных пачатковых школак, якія пабудаваны і будуюцца ў мейсцовасьцях, дзе маецца пераважны ў параўнаньні з іншымі меншасьцямі процант беларусаў, і

3, прызначаньне ў беларускія камплекты вучыцялёў беларусаў.

## Сыстэма народнае асьветы

будуецца звычайна такім чынам, каб яе паасобныя часткі былі сьціслa зьвязаны адна з другою.

У сыстэме беларускае асьветы ў Латвіі да гэтага часу адчуваецца вялікая хіба: паміж агульна-адукацыйнаю 4-х гадоваю пачатковаю школаю і гімназіяй увесь час істнуе прарэх у форме недастачы V і VI клясаў, толькі скончаньне якіх дае права на паступленьня ў гімназію.

На істнуючыя цяпер 33 беларускія пачатковыя школы прыпадае толькі 5 беларускіх пачатковых 6-ці клясовых школ, з якіх 4 гарадзкія (2 ў Рызе, 1 ў Дзьвінску і 1 ў Люцыне) і толькі 1 вясковая (у Ляўдарах Люцынскага павету). Зразумела, што гарадзкія школы, не маючыя інтэрнатаў, абслугоўваюць толькі гарадзкое жыхарства і на 35.000 беларускага вясковага жыхарства прыходзіцца фактычна 1 беларуская 6-ці клясовая пачатковая школа ў Люцынскім павеце.

Пры такім стане перад беларускімі бацькамі-селянамі Латгаліі, якія ня маюць матэрыяльнае магчымасьці пасылаць сваіх дзяцей пасьля сканчэньня 4-х клясовае школы ў горад для навучаньня ў V-ай і VI-ай клясах беларускае пачатковае школы, стаіць дылемма: ці адмовіцца зусім ад далейшае адукацыі сваіх дзяцей, ці пасылаць іх бліжэйшую 6-ці клясовую школу іншых нацыянальнасьцяў, дзе іхніх дзяцей будуць выхоўваць не ў духе беларускае нацыянальнае культуры.

Таму што наагул вёска ў Латгаліі перажывае хоць і малы, але ўсёжткі акрэсьлены пад'ём культурнае самасьвядомасьці і беларускія бацькі перакaнана імкнуцца да магчыма большае адукацыі сваіх дзяцей, то яны звычайна застанаўліваюцца на апошнім і таму процант беларускіх дзяцей, адвадываючых V-ую і VI-ую клясы не беларускіх школ,—надта вялікі.

Натуральным вынікам гэтага зьяўляецца дэнацыяналізацыя значнага ліку беларускіх дзяцей, паступаўшых далей у гімназію таксама не беларускую, а гэты працэс, з свайго боку, пазбаўляе Дзьвінскую беларускую гімназію значнага ліку беларускіх вучнёўскіх элемэнтаў.

Зразумела, што матэрыяльныя магчымасьці самаўрадаў не дазваляюць адразу ў бліжэйшы час адчыніць задаваляючы лік 6-ці клясовых беларускіх пачатковых школ, але з будучага 1927-28 навучальнага году пажадана адчыненьне 3-х гэткіх школ (1 у Люцынскім павеце і 2 у Дзьвінскім павеце), якія і будуць тымі зьвеньнямі, што хоць пачастцы зьвяжуць 4-х клясовыя беларускія пачатковыя школы з беларускаю гімназіяй.

## Мэтады выкладаньня

ў старай школе былі пераважна пасыўныя, што прычынялась да таго, што моладзь, галоўным чынам селянская, дэклясыфіцыруючыся і адрываючыся ад селянства, не прывучанае да сталае творчае працы, была даволі бяссільнаю ў барацьбе за істнаваньне.

Беларуская меншасьць у Латвіі налічае 85,14 проц. селянскіх элемэнтаў, у якіх ня толькі сельскагаспадарчая веда, але і наагул культурнае разьвіцьцё стаіць у параўнаньнем з латыскім селянствам на надзвычайна нізкім роўні. Далёка ня ўсе беларускія селяне мо-

гуць пасылаць сваіх дзяцей для навучаньня ў горад; падаўляючая большасьць дзяцей, атрымаўшы пачатковую асьвету ў 4-х клясовай школе, вяртаюцца да хаты, каб далей працаваць на зямлі.

Адсюль лёгічны вывад, што беларуская пачатковая школа павінна даць дзецям ня толькі граматнасць, але яшчэ хоць элемэнтарныя навуковыя веды селянскае гаспадаркі, павінна выпрацаваць у іх рацыянальныя працоўныя навыкі, а самае галоўнае ўмацаваць у дзяцінай псыхіцы, што праца на зямлі ня ёсьць нейкая кара, а ёсьць праца, дастойная кождага чалавека.

Гэты працоўны сельска-гаспадарчы ўхіл у беларускай вясковай школе, бязумоўна, зьяўляецца патрэбаю жыцьця і вырашэньне гэтага пытаньня кардынальнае вагі дасьць тып новае школы жыцьця. Без яго ўсе лепшыя мэтады школьнае працы будуць толькі нязначнымі паліатывамі ў рэформе беларускае вясковае школы.

Апрача таго гэтая рэформа сама сабою адаб'ецца ў будучыне на большай рацыянальнасьці і інтэнсыўнасьці беларускае селянскае гаспадаркі, а цераз гэта і на ўсім эканамічных дабрабыце беларускае меншасьці.

Зразумела, перад гэтаю рэформаю стаяць об'ектыўныя перашкоды: 1, адсутнасьць зямельных участкаў пры школах, 2, адсутнасьць сельска-гаспадарчага і наагул працоўнага інвентару ў школах, 3, кансэрватызм вясковага селянства, 4, запозьненасьць распачатку школьных заняткаў і раньняе іх скончаньне і г. д. Але пры адпаведнай перападрыхтоўцы настаўніцтва і пры зацікаўленасьці яго ў гэтай рэформе, пры адпаведнай матэрыяльнай падтрымцы з боку цэнтральнае і мяйсцовае улады, гэтая рэформа, гэтае набліжэньне школы да жыцьця зьяўляецца зусім магчымым.

**Беларускае вучыцельства —**

гэты вялікі згустак інтэлектуальнае энэргіі—добра падрыхтаванае, пастаўленае ў добрыя варункі, можа і павінна даць вялікія вынікі ў нацыянальным, культурным і эканамічным адраджэньні беларускае меншасьці ў Латвіі.

Нажаль гэтых спрыяючых для працы варункаў канстатаваць нельга.

Сучаснае становішча і далейшыя пэрспэктывы беларускае школы ў Латвіі яскрава гавораць аб неабходнасьці пляновага ўзвышэньня беларускім настаўніцтвам сваёй кваліфікацыі, галоўным чынам шляхом самаадукацыі.

Але побач з гэтым у жыцьці і працы беларускага вучыцельства ёсьць яшчэ надта важныя аб'ектыўныя вонкавыя абставіны, якія шкодна адбіваюцца на яго працы — гэта адносіны да беларускага вучыцельства часткі прадстаўнікоў адміністрацыі.

У многіць мейсцох яшчэ да гэтага часу кожная, нават маленечкая, праява беларускім вучыцельствам нацыянальнае самасьвядомасьці выклікае з боку улады падазроннасьць, што за кожным беларускім словам за кожнаю беларускаю песьняю крыецца нейкі антыдзяржаўны ўчынак.

Нацыянальна-сьвядомаму беларускаму вучыцельству прыходзіцца ўвесь час, казаў той, хадзіць на цьвіках і патрэбна толькі дзівіцца той моцы нацыянальнага пачуцьця, якое ўстрымлівае лепшую яго частку ад аканчальнае пасыўнасьці, аканчальнага замураваньня сябе выключна ў мурах пэдагогікі.

Але ў значнай частцы беларускага вучыцельства гэтыя адносіны адміністрацыі выклікалі фар-

малізм да сваіх абавязкаў і, нажаль, зробілі з настаўнікаў машыны, мэханічных асоб, абсалютна не маючых сувязі з жыхарствам і культурна-нацыянальных уплываў на яго.

Усё гэта паказвае, што да апошня часу не ўдалося стварыць для беларускіх працаўнікоў асьветы такіх абставінаў, на якія яны па праву могуць і павінны разлічаць.

Таму для нармальнае працы беларускага вучыцельства я лічу патрэбным: забясьпечаньне дабрасумленнага беларускага вучыцельства тава̀рыскім падтрыманьнем, дапамогаю і спачуваньнем, бліжэйшы падход да настаўнікаў, зьнішчаньне стара-казённага адміністраваньня, пагроз і зьневажаньняў з боку адміністрацыі.

Усё гэта Латвійская дзяржава павінна даць беларускаму вучыцельству ў інтэрэсах дзяржаўнага будаўніцтва Латвіі і ў інтэрэсах культурна-прасьветнага разьвіцьця беларускае меншасьці.

**Новы.**

## Яшчэ адна дауно насьпеушая патрэба.

У нашых беларускіх школах стварылася вельмі ненармальнае становішча з настаўнікамі латыскае мовы.—Вучыцялі-беларусы, у пераважкай сваей большасьці, ня маюць права выкладаць латыскае мовы, бо ня здалі патрэбных экзаменаў, каб гэтае права атрымаць. Дык выкладаюць латыскую мову настаўнікі-латышы, якія, у свой чарод, ня ведаюць мовы беларускай і размаўляць з дзяцьмі па-расейску. Апрача свайго спэцыяльнага прадмету, латыскае мовы, гэтыя настаўнікі – латышы маюць у беларускіх школах яшчэ і іншыя абавязкі: выкладаюць некаторыя агульныя прадметы, спаўняюць абавязкі клясовых настаўнікаў-выхаваццеляў і часта-густа, нават, кіруюць беларускімі школамі. Зусім зразумела, што, ня ведаючы беларускае мовы, гэты вучыцялі ўсю сваю працу у школе вядуць на расейскай мове. Калі з боку беларускага настаўніцтва і школьнага кіравецтва яшчэ у 1922 і 1923 г.г. указвалася на тое што настаўнікі-латышы працуючыя ў беларускіх школах, павінны ведаць беларускую мову і праслухаць курсы беларусазнаўства, дык большасьць вучыцялёў—латышоў, пры патрымцы некаторых павятовых інспэктароў у Латгаліі, ад гэтагаадмовілася.

Такім чынам, у працягу пяці гадовага істнаваньня беларускае школы у Латвіі, вучыцялі—латышы ў беларускіх школах зьяўляліся дэнацыяналізуючым нашых дзяцей, элемэнтам і правадзілі ў нас русіфікацыю.

Есьць сярод гэтых латышоў-вучыцялёў і такія, якія ня толькі не знайшлі патрэбным хоць трошкі пазнаёміцца з беларускаю моваю, але ставіліся і ставяцца да яе яўна негатыўна, нават варожа.

Далей гэткае ненармальнае становішча цягнуцца ня павінна, Мы абавязаны пахлапаціцца аб нашей школе. А таму Беларускаму Аддзелу ўжо прыйшоў час запрапанаваць ўсім настаўнікам латыскае мовы праслухаць абавязковыя курсы беларускае мовы, або у выпадтку нязгоды на гэта, пакінуць беларускую школу.

Адначасна з гэтым Аддзел павінен зробіць належныя крокі да таго, каб у беларускіх школах кіраўнікамі і клясовымі настаўнікамі былі толькі тыя настаўнікі якія добра ведаюць беларускую мову.

Гэта ёсьць **нашае неадемнае права** і мы ня толькі **павінны** але і **абавязаны** яго выкарыстаць, каб спыніць далейшую русіфікацыю і наагул дэнацыяналізацыю беларускае меншасьці ў Латвіі.

На мейсца тых настаўнікаў-ла-

# З Беларускага Культурнага Жыцьця.



**III акт п'есы Е. Міровіча «Каваль Ваявода»**
у пастаноўцы Менскага Беларускага Дзяржаўнага Тэатру,
пад рэжысурай аўтара.



**V акт п'есы С. Дылы «Панскі Гайдук»,**
у пастаноўцы Менскага Беларускага Дзяржаўнага Тэатру. пад рэжысурай Е. Міровіча.

тышоў, якія не пажадаюць вывучаць беларускую мову і павінны будуць уйсьці з нашых школ, беларускія Настаўніцкія Курсы ў Рызе павінны падрыхтаваць кадры новых маладых вучыцялёў-беларусаў, добра ведаючых латыскую мову. Гэтыя маладыя настаўнікі і настаўніцы скончылі нашы гімназіі ведаюць у патрэбнай меры латыскую мову і ім не цяжка будзе вытрымаць належны экзамен на права выкладаньня дзяржаўнае мовы у беларускіх пачатковых школах.

**К. Езавітаў.**

# МЭТОДОЛЁГІЯ і ПРАКТЫКА.

А. Луцкевіч.

## Як вучыць у новай школе.

### Уступленьне.

Вучыцялі нашых сярэдніх школ бадай бязвыключна былі ўзгадаваны ў расейскіх урадовых школах „старага рэжыму“. Хаця расейская ўрадовая школа з усімі сваімі дзікімі перажыткамі адыйшла ўжо ў вечнасьць, хаця ўсе мы здаем сабе справу аб благіх бакох сыстэмы навучаньня, што ў ёй панавала, аднак, зусім незалежна ад нашае волі, ў нашых душах маглі захавацца яшчэ дагэтуль падсьвядомыя адгалоскі гэнае сыстэмы.

Мы хочам пазнаёміць нашых, вучыцялёў з найнавейшымі вымаганьнямі школьнага навучаньня сабраўшы сыстэматычна рэчы, мо і вядомыя, але не заўсёды дайшоўшыя поўнасьцю да нашае сьвядомасьці. Спадзяемся, што гэта паможа нам выкараніць у сабе і тыя старарэжымныя перажыткі, што ў нас недзе яшчэ часамі пакутуюць.

Карыстаючыся ў гэтай нашай працы найнавейшымі пэдагогічнымі досьледамі і вымаганьнямі сучаснае пэдагогікі, мы ўзіраліся на кніжачку ў польскай мове Тамаша Солтысіка „Wskazówki dla praktykantów zawodu nauczycielskiego. Zbiór pytan do oceny lekcyj (Wyd. II, Lwów--Warszawa. 1921 r.)“, пераклаўшы стуль блізу бяз зьменаў канцавы аддзел, якому далі назоў „Самакрытыка“.

Хай-жа гэта маленачкая кніжачка будзе першым крокам у далейшым прысваеньні беларускай літаратурай здабычаў пэдагогікі на грунце будаваньня *нашае школы.*

### I. Мэты навукі ў клясе.

Перш, чым пачаць вучыць, здай сабе ясна справу, якое заданьне стаіць перад табой.

Мэты навукі ў клясе дваякія: даць вучням *запас знаньня,* які патрэбен, каб яны ў чароднай клясе былі падгатаваны да далейшага прысваеньня веды; навучыць іх *самастойна думаць* і ясна *выказываць свае думкі.*

Да гэтых мэтаў датарнуй усю працу.

1) На лекцыі не адхіляйся лішне ад тэмы і асабліва выразнаадзначай у сваім выкладзе *асноўныя ведомасьці,* якія павінны астацца ў памяці вучняў назаўсёды. Глядзі, каб тыя паняцьці, што вучні даўней прысвоілі, былі для іх запраўды ясныя і правільна ўжываліся. Аб'ясьняй абмылкі, асабліва часта робленыя вучнямі, даючы кароткае, яснае і правідловае азначэньне незразумелага паняцьця.

2) Сьвядома памагай вучням разьвіваць іх *здольнасьць самастойна думаць,* прымушай іх сьвядома прысваіваць знаньне. Старайся каб вучні шыбка лавілі тваю думку і называлі яснае і правільнае прадстаўленьне аб новым прадмеце. Прывучай лёгічна думаць і самастойна рабіць вывады. Глядзі, каб вучні не паўтаралі гатовых фраз, тваіх ці з вучэбніка, а каб сваімі славамі самастойна выражалі прысвоеныя паняцьці і прадстаўленьні.

3) Разьвівай ня толькі розум вучняў, а і іх *выабражэньне і памяць.* Старайся, каб плястычна прадстаўлялі сабе прадметы, аб якіх гаворыш, каб разьвівалі такжа свой смак. Вучыператвараць прысвоеныя прадстаўленьні і тварыць но-

выя абразы. Гуртуй прадстаўленьні паводке сувязі між імі і ўмацовывай у памяці частым паўтарэньнем.

4) Глядзі, каб зьмест тваіх выкладаў і спосаб навучаньня выраблялў *волю і характар* вучняў. Старайся дзеяць на сэрцы вучняў, будзіць у іх лепшыя пачуцьці; прывучай акуратна і сумленна выпаўняць кожнаю работу і пільнавацца ладу і парадку.

## II. Як вясьці лекцыю?

Лекцыя звычайна трывае 45 мінут і дзеліцца на тры часьці:

*Першая часьць* трывае ня больш за 15 мінут. За гэты час паўтары з вучнямі (дарогай выкліканьня іх) тое, што разгледжана на папярэдняй лекцыі. Калі трэба прагледзець хатнія работы, ці спытацца нешта зададзенае на памяць, дык гэта рабі на самым пачатку лекцыі.

*Другая часьць* трывае ня меньш 20 мінут. За гэты час тлумачыцца і паволі прысваіваецца вучнямі новы матэрыял, агладаючыся на пройдзенае раней і устанаўляючы сувязь новага з старым. Глядзі, каб усе вучні добра зразумелі твой выклад!

У *трэцяй часьці,* якая трывае найкарацей, зрабі разам з вучнямі агляд галоўных пунктаў новага матэрыялу (калі можна, дык і на пісьме,—у матэматыцы задачы!). Тады пераканаешся аб выніках твайго выкладу.

Зважай, каб у кажнай часьці лекцыі ўсе вучні прыймалі чыннае ўчасьце ў рабоце. Ніколі не выклікай вучняў да атказу ў нейкім вядомым парадку! Задавай пытаньне перш, чым назваць імя вучня: тады ўся кляса будзя пільна слухаць. іН япытайся лішняе доўга аднаго ц пару вучняў, а выклікай чым-больш – хоцьбы на адно-два пытаньні. Зважай, каб адказы давалі правільнай мовай.

Задавай работу да хаты ў гэткім разьмеры, каб была выпаўніма.

## III. Хатняя работа.

Задаваньне хатняе работы мае на мэце ня толькі запамятаньне вучнямі разгледжанага ў клясе новага матэрыялу з яго істотнымі падробнасьцямі, але такжа і самастойнае здабываньне імі новых ведамасьцей, адпавядаючых іх разуменьню і прысьпяшаючых праходжаньне курсу. Гэтак, побач з *чытаньнем* тых ці іншых твораў і *пісьменнымі працамі,* да хаты задаецца:

**1.** Паўтарэньне матэрыялу, пройдзенага на лекцыі, практыкаваньне ў правільным чытаньні, *вучэньне напамяць* усяго таго, што трэба ўсьцяж мець у памяці пры далейшай навуцы, а іменна: слоў і зваротаў чужых моваў; узораў скланеньня і сражэньня ў сувязі з адпавядаючымі ім значэньнямі пабеларуску; прыкладаў на граматычныя і стылістычныя правілы; правілаў, тэарэмаў і довадаў з матэматычных навук; навуковых азначэньняў і асноўных ведамасьцей з навук а прыродзе, фізыкі, хіміі; часу і чароднасьці гістарычных здарэньняў; думак вартых асаблівае увагі; вершаў і адрыўкаў літаратурных твораў і г. п.

2. *Практыкаваньні* вусныя і на пісьме, якія маюць на мэце ўмацаваць ведамасьці, набытыя ў клясе, як; скланеньне і спражэньне слоў, этымалёгічны і сінтаксічны разбор, ператварэньне сказаў, укладаньне прыкладаў на граматычныя і стылістычныя правілы, пераклады з беларускае мовы на чужыя і наадварот, пераказываньне прачытаных у клясе твораў, гуртаваньне і раўнаваньне асаблівасьцяў мовы, якія выяўляюцца пры

чытаньні, разьвязываньні матэматычных задач, даступным сілам і падгатоўцы вучняў і г. д.

3. *Паўтарэньне* цэлых аддзелаў пройдзенага курсу, паскольку дзеля гэтага ёсьць адпаведны грунт.

## IV. Як знаёміць вучняу з новым матэрыялам.

Работу ў клясе дзялі на тры аснаўныя часьці, якія адпавядаюць натуральнаму ходу псыхічнага працэсу пры паступовым набываньні веды: 1 *прыгатаваньне* вучняў да прыняцьця новых ведамасьцяў; 2, *выклад* новага матэрыялу і 3, *спажыткаваньне* яго.

**І. Прыгатаваньне**. Адзнач *мэту* сваго выкладаньня, ці-то коратка скажы, аб чым будзе выклад. Напомні ўсе тыя *даўнейшыя ведамасьці,* на якіх будуць апірацца новыя. Растлумач падрабязнасьці, якія маглі-бы перашкодзіць яснаму зразуменьню новага матэрыялу ці аслабіць агульнае прадстаўленьне аб новым прадмэце.

**II. Выклад.** Гэта — галоўная часьціна лекцыі, у якой даецца *аналіз і сынтэз* новаму прадмэту. Дзеля добрага зразуменьня і трывалага прысьваеньня новых ведадасьцей, выклад дзялі ў свой чарод на дыдактычныя чыннасьці: *падачу* матэрыялу, *канцэнтрацыю* і *уагульненьне.*

**А. Падача** вучэбнага матэрыялу грунтуецца на вось гэткіх чыннасьцях:

1. *Прычытаньне* ці вуснае *апавяданьне* аб прадмэце, які павінны прысвоіць вучні, або выясьненьне істоты яго дарогай пытаньня — у форме *гутаркі.*

2. *Пераклад* з лацінскае ці грэцкае мовы поруч з выяўленьнем граматычнае залежнасьці паміж словамі ў сказе і паміж сказамі, а таксама з аб'ясьненьнем асаблівасьцей мовы ў меру патрэбы. — *Выяуленьне думак* перакладзенага тэксту і разбор іх — *Паўтарэньне* зробленага перакладу ў аканчальнай форме ці то вучнямі, ці то перш вучыцелем — Правільнае і сьвядомае *прачытаньне* перакладзенага тэксту. — Кароткі пераказ зьместу даўжэйшага суцэльнага адрыўка, перакладзенага часткамі.- *Лексічныя практыкаваньні* дзеля замацаваньня ў памяці старых ці новых слоў, абаротаў і сінтаксічных або стылістычных асаблівасьцей мовы.

3. *Пераказ вучнямі* зьместу прачытанага. Выяўленьне *галоуных і другарадных думак* прачытанага твору, азначэньне ўзаемных адносін паміж імі і вывядзеньне *аснаўнае ідэі* твору. Выяўленьне *ходу мысьлі* аўтара і будовы твору.

4. *Разбор* прачытанага ці перакладзенага дзеля грунтоўнага абзнаямленьня вучняў з пазнаным творам з боку гістарычнага, лёгічнага, эстэтычнага, этычнага, літэратурнага, культурнага і г. д. —дзеля чаго служыць:

а) абгаварываньне і адзначэньне мейсца і часу дзеяньня, асобаў, узаемных адносін паміж імі пабуджэньняй да дзеяньня, чароднасьці здарэньняў і сувязі паміж імі, іх прычын і вынікаў, маральнага ці практычнага значэньня. спосабу прадстаўленьня аўтарам і яго асноўных выхадных паглядаў, паходжаньня і фону твору, характва мовы і тэхнічных спосабаў, ужытых дзеля гэтага, і г. п.

b) азначэньне станаў душы, псыхічных працэсаў, узварушэньняў, пачуцьцяў і перажываньняў дзеючых асоб, настраеньня, мэтаў і паглядаў аўтара, тэндэнцыі твору, эпохі і г. п.

c) зварачаньне увагі на падробнасьці, характэрныя для дзеючюх асоб або для ходу дзеяньня, для творчасьці і тэхнікі аўтара, для панаваўшых у яго часох імкненьняў і ідэйных кірункаў, а такжа духовага жыцьця наагул,—урэшце

для роду, значэньне і мастацкае вартасьці твору і г. д.

d) пры праходжаньні матэматычных праўд і правілаў—азначэньне іх сувязі і мэйсца ў суцэльнай сыстэмы адпаведнае галіны навукі; пры развязцы задач—уніканьне ў сэнс пытаньне, адзначэньне тыповасьці і асаблівасьцей у ходзе разважаньня і спосабе разьвязкі і т. п.

5. *Справаздача* аб прачытаным ці перакладзеным з боку выяўленьня элемэнтаў унутранага ўкладу, якому адпавядае вонкавая будова. Адзначэньне галоўных і другарадных часьцін твору і ўнутранае сувязі паміж імі.

B. **Концэнтрацыя**. Выясьніўшы прадстаўленьнямі (аналёгія, контраст), вельмі карысна прыраўнаваць гэтыя новыя прадстаўленьні да раней набытых ня толькі з разгляданае галіны навукі, але і з другіх. Гэта памагаець сконцэнтраваць усю веду вучняў і дае ім магчымасьць лягчэй прысваіць новае знаньне на шырокім фоне.

C. **Уагульненьне.** Выяўленьне істотных адзнак, агульных ураўнаваных рэчах (прыкладах, зьявішчах, адносінах, здарэньнях, абразох, думках), і вытварэньне з іх *агульнага паняцьця* (правіла, закону, агульнае праўды, прынцыпу і т. п.). Вызначэньне для гэтага паняцьця месца ў шыху другіх ведамасьцей таго-ж роду і ўмацаваньне ў памяці адпаведнымі практыкаваньнямі.

III. **Спажыткаваньне** здабытых ведамасьцей дзеля самастойных прац вучняў, вусных і пісьменных. Выясьненьне практычнага значэньня іх у жыцьці. У практыкаваньнях глядзі, каб вучні *не паўтаралі* таго, што ім дадзена ў клясе, а каб свабодна *пераўтваралі* атрыманую веду ў новыя формы (карыстаньне з новых правілаў пры разьвязцы задач і інш).

## V. Ход і форма выкладаньня.

Ход і форма выкладаньня залежыць як ад мэты і зьмест навукі, так і ад ступені духовага разьвіцьця вучняў і другіх варункаў, істнуючых у клясе.

Зважай, каб *сколькасьць* новага матэрыялу адпавядала сілам клясы і на кожнай лекцыі станавіла па магчымасьці арганічную цэласьць.

Загадзя падзялі курс на *мэтадычныя адзінкі.* Матэрыял дзялі на паўгодкі, месяцы і тыдні, мяркуючы, каб увесь курс прайсьці да канца месяца траўня (мая), а апошнія тыдні пасьвяціць на паўтарэньне пройдзенага і ўмацаваньне ў памяці практыкаваньнямі. Гэткае паўтарэньне павінна адбывацца ў клясе ў жывых гутарках вучыцеля з вучнямі — без заданьня да хаты.

Пачаўшы лекцыю з яснага і добра зразумелага азначэньня *мэты* выкладу, ідзі далей крок за крокам, ні на момант ня спускаючы вачэй з гэтае мэты. Аднаві і ўпарадкуй у памяці вучняў старыя прадстаўленьні, неабходныя дзеля апэрцэпцыі (прысваеньня) новых ведамасьцей, каб рэчы невядомыя зьвязаць з вядомымі. Калі нямашака такіх старых ведамасьцей, на якіх можна будаваць новыя, дык сам знайдзі падход да новага, апіраючыся, прыкладам, на аналёгіі з другіх прадмэтаў і галін знаньня і г. п.

Зважай, каб вучні, *чыталі* плаўна, голасна, выразна і з зразуменьнем чытанага, — толькі тады ўся кляса будзе слухаць і карыстаць з чытаньня паадзінокіх таварышаў.

Памятай, што першы варунак уважлівых адносін клясы да выкладу—гэта *зацікауленасьць*, якую ў вучняў будзіць: а) лёгка зразумелая будова выкладу (дыспазыцыя),

(Працяг будзе). **А. Луцкевіч.**

# Папулярныя нарысы тэорыі каапэрацыі.

## Каапэрацыя і прафэсыянальны рух.

Цяперака мы спынімся на разглядзе пытаньня аб ўзаемаадносінах паміж каапэрацыяй і прафэсыянальным рухам, да якога мы падыйшлі ў папярэднім нарысе.

Звычайна, як ў літаратуры, гэтак і ў гутарках, прафэсыянальныя хаўрусы рашуча адмяжоўваюцца ад каапэратываў, як арганізацыі зусім, нібыта, іншага тыпу. Аднак, нельга не заўважыць, што працівастаўляючы адзін-аднаму гэтыя арганізацыі, ніхто звычайна не спыняецца падрабязна на высьвятленьні грунтовых рысак іх рожніцы, а ўсе лічуць гэта сама—сабой зразумелым. Між тым, калі разглядзець гэта пытаньне больш дэтальная, рожніца ў значнай меры павялічана, і што, апрыч таго, паміж імі ёсьць зусім ясныя і пэўныя рыскі сваяцтва. У нарысе другім мы ўстановім вызначэньне каапэратыву. Да гэтага вызначэньня дужа блізка падыходзе таксама і зацьверджанае 20 сакавіка 1917 году. Часовым Урадам палажэньне аб каапэратыўных таварыствах і іх хаўрусах. Згодна § 1 палажэньня, да каапэратываў адносяцца таварыствы з пераменным складам членаў і капіталам, якія, працуючы пад асобнай фірмай, маюць мэтай дапамагаць матёр'яльнаму і духоўнаму дабрабыту сваіх членаў шляхам арганізацыі рожнага роду прадпрыемстваў ці арганізацыі працы сваіх членаў. Гэта вызначэньне здаецца мне найбольш адпаведным з усіх, даваных у сучасны момант законадаўчымі актамі. Але калі ўдумацца ў яго, дык ня цяжка ўбачыць, што яно па істоце сваёй зьніштажае звычайнае працівапастаўленьне прафэсыянальнага хаўруса каапэратыву. Запраўды-ж, тры адзнакі можна лічыць грунтоўнымі для характэрызацыі кождае арганізацыі: 1) **мэта**, якую сабе ставіць арганізацыя, 2) **сродкі**, з дапамогай якіх зьбіраецца яна ўжыцьцёвіць гэту мэту, і 3) яе **структура**.

Адносна мэты вышэй памянёны закон кажа, што каапэратыў ставіць сабе мэтай дапамагаць матар'яльнаму і духоўнаму дабрабыту сваіх членаў. Але-ж гэтага дамагаецца і прафэсыянальны хаўрус, такім чынам рожніцы паміж імі нямя ніякай. Але, можа быць, яны адзначаюцца друг ад друга тымі сродкамі, якія ўжываюцца імі для правядзеньня ў жыцьцё сваяе мэты?

Для каапэратываў характэрным зьяўляецца тое, што яны йдуць шляхом стварэньня рожных прадпрыемстваў і арганізацыяў працы сваіх членаў. Прафэсыянальныя хаўрусы ня робяць ніякіх прадпрыемстваў, скіраваных да атрыманьня зыску (хоць ёсьць напрамак, які даводзе, што яны могуць і павінны ўзяцца за гэта), але яны арганізуюць працу сваіх членаў і гэткім чынам дамагаюцца паляпшэньня варункаў збыту.

Гэткім чынам, астаецца толькі апошняя адзнака—структура, г. ё. унутранная будова арганізацыяў: рожная яна ці аднальковая ў каапэратыўных і прафэсыянальных хаўрусах? І тыя і другія зьяўляюцца, па-перш, аб'еднаньнямі дабравольнымі і разам з тым не замкненымі, а адчыненымі для неабмежаванага загадзя ліку членаў; падругое, абодвы яны належаць да тыпу арганізацыяў эканамічных, што адзначае іх ад таварыстваў, маючых мэты выключна ідэальныя, ці духоўныя. Тутака мне могуць зазначыць, што ў прафэсыянальных хаўрусах няма паёў, якія яўляюць характэрную адзнаку каапэ-

ратыўных таварыстваў. Аднак, на гэта можна адказаць, што і сярод каапэратываў ёсьць такія, якія абыходзюцца без паёў; сюды належуць — крэдытныя таварыствы Райфэйзэноўскага тыпу, працоўныя сяброўствы і некаторыя іншыя.

Некаторыя аўтары даводзюць тую рожніцу, што прафэсыянальныя хаўрусы ёсьць баявыя арганізацыі, тады як каапэратывы скіроўваюцца да замірэньня інтэрасаў працы і капіталу і далёка стаяць ад усякае барацьбы. Найбольш рашуча праводзіцца гэты пагляд Гансам Мюллерам, па думцы якога „клясовае змаганьне і мэтоды арганізацыі каапэратываў выключаюць друг друга“, і што „клясовая барацьба варожа каапэратыўнай па сваіх прынцыпах і несаўмясьціма з ёю“; ня менш рашучым абаронцай гэтага погляду зьяўляецца і В. Ф. Тотоміанц. Аднак, у аснове яго ляжыць яўнае непаразуменьне. „Каапэратывы — як правідлова заўважае М. У. Туган-Бараноўскі — вядуць ня менш энэргійную барацьбу з капіталістычнай клясай, чым працоўныя хаўрусы, але зусім іншым чынам. Творучы новае прэдпрыемства, каапэратыў канкуруе з капіталістычнымі прэдпрыемствамі і нішчыць апошнія. У гэтым кірунку праца каапэратыву яшчэ страшней для капіталістычнага прадпрыемства, чым працоўны хаўрус. Апошні дамагаецца зьмяніць узаемаадносіны сілаў у сярэдзіне капіталістычнага прэдпрыемства з ушчэрбам інтэрасаў капітала, але ня толькі дамагаецца разбурэньня самога прэдпрыемства, але наадварот, ня менш самаго капіталісты зацікаўлены ў захаваньні яго. Самай вялікай пагрозай працаўнікам зьяўляецца зачыненьне прадпрыемства: няма працадацеля — няма і працы. Наадварот, каапэратыў ня толькі не баіцца спыненьня капіталістычнага прэдпрыемства, але як раз і кіруецца да гэтага. Кожны каапэратыў мае перад сабой пэўны від капіталістычнага прэдпрыемства, з якім ён канкуруе і якога дамагаецца зьнішчыць. У гэтым сэнсе каапэрацыя вядзе з капіталізмам яшчэ больш рашуцае змаганьне, чым іншыя арганізацыі працоўнае клясы“...

Сам М. Туган-Бараноўскі ўгледжывае паміж імі тую рожніцу, што каапэратыў зьяўляецца творчай, будуючай сілай, а прафэсыянальны хаўрус — руйнуючай. Але ці так гэта? Калі мы вызналі, што каапэратыў ёсьць сацыяльнае змаганьне, дык і ў ім павінен быць руйнуючы элемэнт, бо дзе ёсьць змаганьне, тамака ня можа ня быць жаданьня разбурыць ці зьнішчыць ворага. А з другога боку і праца прафэсыянальных хаўрусаў, не зьяўляецца выключна толькі разбураючай, але і творчай, ці вярней — яна выглядае руйнуючай толькі з пункту гледжаньня прамыслоўца-прэдпрыемцы, з грамадзкага-ж пункту гледжаньня яна бязумоўна зьяўляецца будаўніча-творчай. Бо-ж галоўныя функцыі працоўных хаўрусаў у тым, каб падняць сацыяльную роўню сваіх членаў і замяніць самадзяржаўны рэжым капіталістычных прадпрыемстваў на новы канстытуцыйны, пры якім унутраны лад устанаўляўся-б не самаўладным загадваньнем гаспадара, а агульнымі нормамі калектыўнае ўмовы, выпрацованай пры безпасярэднім удзеле саміх працаўнікоў і рэгулiруючага ўсе галоўнейшыя бакі іх жыцьця нафабрыках. Гэтак паступова, крок-за-крокам, выпрацоўваюцца новыя адносіны і новыя людзі ў нэдрах самага капіталістычнага ладу, палегчаючы і падрыхтовываючы ў будучыне магчымасьць яго ліквідацыі. А гэта функцыя—бязспрэчна творчая...

Гэткім чынам, разглядзіўшы пытаньне больш дэтальна, мы бачы-

мо, што звычайнае праціўстаўленьне каапэрацыі і прафэсыянальнага руху не вытрымлівае крытыкі. Праўда, у прафэсыянальных хаўрусах ёсьць свае індывідуальныя асабліваcьці, але яшчэ больш ёсьць у іх рысак падобнасьці, што і дае нам права разглядаць іх, як асобны від аднаго агульнага роду — каапэратыўных таварыстваў, як гэта і было паказана ў главе аб кляcыфікацыі.

На першым кангрэсе працоўных спажывецкіх таварыстваў, адбыўшымся 1 — 6 жніўня 1917 году ў Петраградзе, была прынята гэткая рэзалюцыя па даннаму пытаньню:

1. Узаемаадносіны каапэратываў і прафэсыянальных хаўрусаў павінны быць сяброўскімі.

2. Каапэратывы павінны дапамагаць прафэсыянальным хаўрусам у іх барацьбе з капіталам.

3. Каапэратывы павінны дамагацца, каб усе працаўнікі і служачыя іх прэдпрыемстваў былі членамі прафэсыяльных хаўрусаў і прыймаліся з прафэсыянальных хаўрусаў.

4. Каапэратывы павінны ўвадзіць у сябе калектыўны дагавор (умову).

5. Каапэратывы павінны мець зьвязак з хаўрусамі для арганізацыі культурна-прасьветнае працы і ўзаемадапамогі.

6. Каапэратывы павінны мець цесную ўзаемадзеяльнасьць з прафэсыяльнымі хаўрусамі шляхам узаемнага прадстаўніцтва паміж кіруючымі органамі.

7. Кангрэс выносіць пажаданьне, каб усе члены каапэратываў былі членамі прафэсыянальных хаўрусаў.

8. Кангрэс выносіць пажаданьне, каб усе члены прафэсыянальных хаўрусаў былі членамі каапэратываў

(Працяг будзе). **А. Пажытноў,**

# З жыцьця беларускіх школ у Латвіі.

### Беларуская вечарына-спэктакль у Рызе.

У суботу 4 красавіка адбылася 2-я вечарына-спэктакль курсантаў беларускіх настаўніцкіх курсаў. Ставілі п‘есу ў „Кавалёвай Хаце“.

### Рэвізыйная візытацыя ў Дзьвінскай Беларускай Гімназіі,

8-га красавіка Дзьвінскую Беларускую гімназію адведаў рэвізор Міністэрства Асьветы гр. Мелнэлксніс. Уражаньне ад рэвізіі нашае гімназіі асталося ў рэвізора добрае, аб чым ён і зазначыў настаўніцтву.

### Лекцыі В. Ластоўскага ў Дзьвінску.

9-га і 10-га красавіка вядомы беларускі гісторык, В. Ластоўскі, па запросінах „Т-ва беларускіх вучыцялёў“, прачытаў у Дзьвінскай беларускай гімназіі 2 лекцыі на тэму: „Галоўныя гістарычныя этапы беларускага народу і пэрспэктывы яго на будучыну“.

На лекцыі былі прысутны: настаўнікі, сябры беларускіх т-ваў, бацькі вучняў і вучні беларускае гімназіі. Праслуханы лекцыі былі надзвычайным зацікаўленьнем. Прысутныя выразілі пажаданьне, каб гэткія-ж лекцыі былі перыядычна роблены і ў будучыне.

### Лекцыя В. Ластоўскага ў Рызе.

У сераду 13-га красавіка, гр. В. Ластоўскі прачытаў лекцыю для настаўнікаў і слухачоў Беларускіх Настаўніцкіх Курсаў у Рызе.

Паважаны лектар тэмаю для сваёй лекцыі ўзяў разгляд актаў палітычнае вуніі паміж Вялікім Беларуска-Літоўскім княжствам і Польшчай. Багатая эрудыцыя лектара і яго цікавыя вывады зрабілі лекцыю вельмі цікавай і навучальнай.

## Роспуск беларускіх школ на пасхальныя канікулы.

У сераду 13-красавіка Беларускія Настаўніцкія Курсы ў Рызе, Дзьвінская Беларуская Гімназія, а таксама і ўсе гарадзкія і вясковыя беларускія пачатковыя школы ў Латвіі,—распушчаны на пасхальныя канікулы.

Дзеля таго, што каталіцкая Пасха прыпадае на 17 красавіка, а праваслаўная Пасха сьвяткуецца ў гэтым годзе на тыдзень пазьней, 24 красавіка, вучні распушчаны на цэлых 2 тыдні, каб даць магчымасьць абодвым вераспавяданьням адсьвяткаваць свае сьвяты.

Заняткі пачнуцца ўва ўсіх беларускіх школах у чацьверг 28 красавіка.

# Экзаменацыйная праграма мэтодыкі гісторыі

### для слухачоў Беларускіх Настаўніцкіх Аднагадовых Курсаў у Рызе.

(Праграма ўложана з курсу, прачытанага ў 1926-27 навучальным годзе. Кожды білет складаецца з двух раздзелаў: тэорэтычнага, адзначанага літараю—А., і практычнага, адзначанага літараю — Б.).

**1. А**: Паходжаньне слова „мэтад“ і значаньня яго. Патрэбнасьць мэтаду ў каждай працы. Рожніца паміж добрым і кепскім мэтадам. Мэтады зьбіраньня гістарычнага матэр‘ялу. Асаблівая патрэба мэтадычнасьці ў працы настаўніка.

**Б**. Пастаноўка пытаньня аб выкладаньні гісторыі ў старой, расейскай, царскай школе. Спрэчкі аб патрэбнасьці гісторыі і аб парадку, у якім яна павінна выкладацца.

**2. А**. Гісторыя як навука. Працэс гістарычнага разьвіцьця. Заканамернасьць гістарычнага працэсу. Прычыны, варункі і фактары гісторычнага разьвіцьця.

**Б**. Працэс выпрацоўкі праграмы гісторыі для расійскай царскай школы. Палітычны курс. Культурна-бытавы курс. Спроба Зьвягінцова і Бурнашова.

**3. А**. Уплыў географічных варункаў на гістарычны працэс. Адносіны насяленьня да яго тэрыторыі. Уплывы суседзяў. Культурная роўня народу.

**Б**. Апошняя праграма Міністэрства Асьветы 1913 году. Яе агульны характар, зьмест і тэндэнцыя. Заганы гэтае праграмы.

**4. А**. Уплывы ідэй на гістарычны працэс. Роля асобы ў гісторыі. Мейсца гісторыі сярод іншых навук.

**Б**. Праграма гісторыі для беларускіх пачатковых школ, апрацаваная камісіяй настаўнікаў пры Цэнтральнай Беларускай Школьнай Радзе ў 1920 годзе. Агульны характар, зьмест, падзел матэр‘ялу паміж клясамі.

**5. А**. Гісторыя, як прадмет выкладаньня. Мэта вывучэньня гісторыі. Гісторыя ў вышэйшай, сярэдняй і пачатковай школе. Выбар гістарычнага матэр‘ялу.

**Б**. Прычыны, з поваду якіх праграма Цэнтральнай Беларускай Школьнай Рады не падыходзе да беларускай школы ў Латвіі.

**6. А**. Курс гісторыі ў пачатковай школе з боку ягонага зьместу. Праграма. Праца ідэальная і рэальная. Біографічны элемэнт.

**Б**. Праграма гісторы для беларускіх школ у Латвіі. Агульны характар. Зьмест. Рожніца ў параўнаньні з старой расейскай праграмай па гісторыі і з праграмай Цэнтральнай Беларускай Школьнай Радай.

**7. А**. Культурна-бытавая гісторыя ў пачатковай школе. Батальны элемэнт. Хронолёгія ў пачатковай школе. Творчая праца настаўніка.

**Б**. Падзел гістарычнага матэр‘ялу паміж клясамі ў латвійскай беларускай пачатковай школе. Пра-

грама III клясы.

**8. А.** Спосабы выкладаньня гісторыі ў пачатковай школе. Агульны характар. Падручнік. Нагляд-ныя дапамогі.

**Б.** Праграма гісторыі ў IV клясе беларускае пачатковае школы ў Латвіі.

**9. А.** Паэтычны элемэнт пры выкладаньні ў пачатковай школе. Выкарыстаньне прыказак, баяк, забабонаў. Чытаньня да курсу гісторыі.

**Б.** Праграма гісторыі ў V клясе беларускай пачатковай школы ў Латвіі.

**10. А.** Прыстасаванньне да ўнутрашняга вопыту (досьлед) вучняў. Ілюстраваньне курсу гісторыі сіламі настаўніка і вучняў.

**Б.** Праграма гісторыі ў VI клясе беларускае пачатковае школы ў Латвіі.

**11. А.** Штучныя спосабы заўладаць увагай вучняў. Экскурсіі.

**Б.** Як падзяліць матар'ял і ўлажыць плян выкладаньня гісторыі ў беларускай школе перад пачаткам навучальнага году: у мястовай школе, у вясковай школе.

**12. А.** Пісьменныя працы з курсу гісторыі. Спосабы паверкі веды вучняў. Школьны музэй. Удзел настаўніка ў працы па краязнаўству.

**Б.** Як карыстацца праграмай і які матар'ял з праграмы гісторыі трэба выбіраць для школы, калі яна мае ня 6 клясаў, а толькі 4 (школа першай ступені).

Лектар мэтодыкі гісторыі

**К. Езавітаў.**

Рыга, 12 красавіка 1927 году.

# „Гісторыя Беларускай Кнігі" для беларускіх настаўнікаў у Латвіі.

Пасьля даўгой перапіскі і шматлічных заходаў, Беларускае выдавецтва ў Латвіі атрымала нарэшці цікавую кнігу В. Ластоўскага— —„Гісторыя Беларускае (Крыўскае) Кнігі", што вышла ў мінулым годзе ў Коўне.

Кніга дае гісторычна - біографічны агляд усіх памятнікаў беларускага пісьменства начынаючы з канца X і да пачатку XIX стагодзьдзя.

Кажды беларускі інтэлігэнта павінен мець ўсябе гэтую кнігу як кнігу настольную, як помнік і сьветку вялікага разьвіцьця беларускае культуры.

Кніга мае да 700 сларонак вялікага фармату з шматлічнымі фатаграфіямі старых грамат, кніжак і іншых помнікаў. Друкавана кніга на вельмі добрай паперы, прыгожым, чытэльным шрыфтам.

Кошт кнігі 35 латаў без перасылкі. За перасылку і упакоўку— 1 лат (кніга важыць 7 фунтаў).

Каб даць магчымасьць правінцыяльнаму беларускаму настаўніцтву набыць гэтую каштоўную кнігу, Беларускае Выдавецтва робіць настаўнікам гэткую разсрочку выплаты: пры выпісваньі кнігі—20 латаў праз месяц—яшчэ 10 латаў праз два месяцы—яшчэ 6".

Дзеля таго, што ў выдавецтве атрымана на камісію толькі 10 кніжок, настаўнікі, жадаючыя выпісаць кнігу, павінны зараз жа напісаць аб гэтым Выдавецтву.

Адрас: Baltkrievu Izdevniecība Latvijā, Rīgā, Ģertrudes iela, 80.

Грошы можна надсылаць паштовым пераводам на вышэйпаказаны адрас Выдавецтва, але пераvод каштуе таней, калі ён робіцца на бягучы рахунак Беларускага Выдавецтва пры Рыскай паштовай канторы. Адрас: Rīgā, Pasta tekoša rēķina № 836.

РЭДАКТАР-ВЫДАВЕЦ **К. ЕЗАВІТАЎ.**

**Беларускаму настаўніцтву робімо напамінаньне аб хутчэйшым узносе сяброўскай складкі ў кассу „Таварыства беларускіх вучыцялёў".**

**Тыпаграфія Г. Ігe, Рыга, Гертрудзінская вул., № 80.**

# Браты беларусы!

Той чалавек, які не захапіўся ў сваём жыцьцю якой-колечы высокай ідэяй, а жыве толькі для свайго ўласнага бруха, — ня ёсьць запраўдны чалавек, жыцьцё ягонае падобна да жыцьця жывёлы: паеў, папіў, на паветру пасядзеў ды спаць лёг, а на другі дзень—пачынай з пачатку! Гэтак жыць нельга!

Трэба, каб была страва ня толькі для бруха, але і для духа, — для душы!

Кожны беларус павінен жыць і працаваць ня толькі для сябе, але і для лепшае будучыны нашага народу.

Кожды беларус павінен прыймаць самы чынны і горачы ўдзел у нашым беларускім, нацыянальна-адраджэнчым руху.

Кожды селянін, кожды рабочы, кожды настаўнік — павінен дапамагаць беларускаму адраджэньню ўсімі сваімі сіламі. Кожды павінен рабіць тое, што ён па сваім здольнасьцям і магчымасьцям можа зрабіць.

Кожды беларус павінен чытаць сваю газэту і кнігу, купляць і пашыраць іх, бо гэтым ён пашырае і ўмацовывае беларускі рух.

Кожды беларус павінен быць сябром беларускіх нацыянальных арганізацыяў і дапамагаць ім у іхняй працы.

Не павінна быць такіх беларусаў, якія гаварылі-б: „Ат, мая хата скраю!“, або „І без мяне абойдзецца!“ Хто так думае, або гавора, той адракаецца свайго роднага, беларускага, і такога чалавека мы павінны лічыць здраднікам нашае беларускае справы.

Беларускія школы, беларускія каапэратывы, беларускія нацыянальныя таварыствы і арганізацыі павінны дружна падтрымоўвацца ўсімі беларусамі.

У аб‘еднаньні—сіла!

Еднаючыся каля сваіх беларускіх арганізацый, мы знойдземо сабе ідэёвую працу і ўмацуем культурнае і эканамічна-сацыяльнае становішча беларускага народу.

**Настаунік-Беларус.**

## Зьмест № 6 (4).